ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 48 (1594) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 30 ЛІСТАПАДА 1986 г. ЦАНА 10 зл.



## НАСТАЎНІКАМ ПАД РАЗВАГУ

На старонках тыднёвіка „Ніва“ чытачы пішуць на розныя тэмы. Часта вядуць тут дыскусіі-марафоны. Бяруць у іх удзел людзі розных прафесій. Здаецца мне аднак, што замала выказваюцца настаўнікі, у тым ліку настаўнікі беларускай мовы. Ведаюць жа ўсе, якую ролю спаўняюць яны ў грамадстве, і таму ёсць ім пра што пісаць. Возьмем хаця б праграмы навучання, метады і формы працы на ўроках, заняткі са школьнай моладдзю пасля ўрокаў, значэнне сям'і, а таксама ўплыў на паводзіны вучняў асяроддзя, сродкаў масавай інфармацыі (чытай: тэлевізіі) — гэта толькі некаторыя пытанні, праблемы да дыскусіі. Ці можа настаўнік маўчаць, калі нашае школьніцтва перажывае цяжкі перыяд, калі паўстаюць камітэты дапамогі школе? Ці ў нас якраз усё ідзе так добра, што не варта нават дыскутаваць? Маўчанне ў гэтым месцы гэта напэўна найбольш дрэнны метад. Думкамі павінны абменьвацца і настаўнікі роднай мовы, і настаўнікі іншых прадметаў, выхавацелі.

Добры прыклад даюць студэнты, якія рыхтуюць „Прысутнасць“. Думаю, што рэдакцыя „Нівы“ згадзілася б нават выдаваць настаўніцкую старонку. Справа датычыць таксама будучыні і развіцця нашай беларускай культуры. Настаўнік павінен быць яе абаронцам і стваральнікам.

Па адукацыі і працы я — настаўнік геаграфіі і працую ў пачатковай школе. Свае заўвагі хачу накіраваць у адрас сяброў па прафесіі і спецыяльнасці — настаўнікаў геаграфіі. Лічу таксама, што справы, пра якія пішу, не павінны быць абыякавыя ўсім чытачам „Нівы“. Школа займае адно з цэнтральных месц у жыцці сучаснага грамадства, а на праблемах адукацыі і выхавання дзяцей і моладзі канцэнтруецца ўвага не толькі настаўнікаў.

Геаграфія, якой я вучу, — гэта прадмет грамадскі, хоць не толькі... Вядомы польскі географ Станіслаў Паўлоўскі пісаў: „...у геаграфіі змяшчаюцца элементы інтэрнацыяналізму і ўсеагульнасці. Геаграфія ёсць навукай пагаднення і згоды між народамі...“

Асноўная думка новай праграмы навучання геаграфіі пайшла ў напрамку замацавання ролі ўсялякага роду мясцовых заняткаў і назіранняў. Таму зацікавіў мяне змест тых пунктаў, якія адносяцца да найбліжэйшай ваколіцы і рэгіёна, дзе мы жывем. Прапарцыянальна справа гэтая ў кожным з класаў выглядае па-рознаму. Найбольш такіх жа лозунгаў знаходзіцца ў праграме для IV і VIII класаў. У класах гэтых матэрыял навучання прысвечаны Польшчы.

Дзякуючы вывучэнню геаграфіі неабходна паслядоўна фармаваць у маладога чалавека замілаванне да роднай ваколіцы і рэгіёна. Не трэба саромецца, што гэта будзе чалавек са сфармаваным так званым лакальным патрыятызмам. Вядома, маем тут на думцы комплекс прышчэпленых навыкаў да клапатлівасці пра сваё асяроддзе, шанаванне традыцый і людзей, якія тут жывуць і ствараюць матэрыяльныя і культурныя каштоўнасці. Іменна ўмелым навучаннем геаграфіі выхоўваем моладзь на свядомых патрэб, абавязкаў і правоў грамадзян сацыялістычнай краіны. Моладзь прывучаем правілам

(Працяг на стар. 3)

## У САКОЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ

У нядзелю, 9 лістапада 1986 г. адбылося ў Саколцы пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ з удзелам гарадскога актыву. Асноўнай тэмай пасяджэння была справаздача аб культурна-асветнай дзейнасці ў сезоне 1985/86 і абмяркоўка напрамкаў дзеяння аддзела ў сезоне 1986/87. Пасяджэнне вёў Аляксандр Юргель. З уводным дакладам выступіў Аляксей Тур, а папаўняльную інфармацыю аб культурна-асветнай дзейнасці на Сакольшчыне прадставіў Аляксандр Рафаловіч.

Удзельнікі пленума гаварылі аб патрэбах і магчымасцях развіцця культурна-асветнай дзейнасці БГКТ у сакольскім асяроддзі. Аляксандр Ярашэвіч даказваў, што ў Саколцы можна было б стварыць хор, калі б знайсці на месцы інструктарадырыжора. Многія з удзельнікаў дыскусіі (напрыклад, Аляксандр Тур, Аляксандр Юргель, Іяланта Максімец, Мікалай Байгус) звярталі ўвагу на недахоп фінансавых сродкаў, што стварае вялікія клопаты пры арганізацыі культурных мерапрыемстваў. Мікалай Дзмітрук заклікаў, каб нягледзячы на цяжкасці арганізаваць народныя беларускія святкаванні. Такія мерапрыемствы пакідаюць на ўдзельніках незабыўныя ўражанні, набліжаюць беларускую народную культуру, прывіваюць любоў да роднага, дапамагаюць інтэграцыі беларускага асяроддзя.

Арганізаванне культурных мерапрыемстваў у беларускім асяроддзі не павінна быць выключнай спецыяльнасцю БГКТ, сказаў Кастусь Моцька. Як суарганізатары павінны ў гэта ўключацца мясцовыя ўлады і культурныя ўстановы.

На пытанні, якія былі ўзняты падчас дыскусіі, адказваў сакратар ГП Віталій Луба, які таксама паінфармаваў прысутных аб актуальным становішчы ў БГКТ. Затым ветэран сакольскага гуртка БГКТ сябра, Янка Сідар звярнуўся з сардэчнай прамовай у адрас маладых членаў Таварыства. Выказаў ён падзяку народнай уладзе за стварэнне ўмоў для развіцця беларускага руху ў Польшчы і заклікаў беларускую моладзь ахвярна працаваць дзеля захавання і развіцця нашай народнай культуры.

Пленум закончыўся прыняццём напрамкаў дзеяння аддзела і гурткоў БГКТ у сезоне 1986/87 і абмеркаваннем арганізацыі навагодняга балю для членаў і сімпатыкаў БГКТ у Саколцы ў студзені 1987 г.

**В. Луба**

# МАСТЫ НАШАЙ ДРУЖБЫ

**Інтэрв'ю дае беларускі пісьменнік Паўлюк Пранузa — член дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў, якія прабывалі ў Польшчы ад 20-га да 29-га кастрычніка 1986 года.**

**Пытанне:** Як Вы сябе адчуваеце?

**Адказ:** Ад 1978 года знаходжуся на пенсіі, але не паддаюся старасці. Сваю бадзёрасць выявіў я, між іншым, у такім вершы:

Хоць на пенсіі я, а заняты
І не ўзяць мяне смутку, тузе.
Поўна, стаў я ўжо экспанатам
Але вось не прашуся ў музей.
Часта сніцца перадавая,
Я ў акопе з сябрамі — байцом,
Нас вайна і цяпер забівае
Той жа сталлю і тым жа
свінцом.

Выступаю па лініі Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў БССР у розных асяроддзях. Перад калгаснікамі, рабочымі, служачымі і найчасцей вучнямі. Мой стары настаўніцкі вопыт памагае мне ў кантактах з моладдзю. Гэтым жа тлумачыцца і маё пастаяннае супрацоўніцтва з „Настаўніцкай газетай". Часта выступаю па радыё, асабліва ў перадачах для дзяцей „Арлянят" і „Верасок". Як бачыце, работы і заняткаў хапае, зрэшты, без іх і жыццё было б мала цікавае.

**Пытанне:** Вы прыехалі ў Польшчу як ветэран. Якім быў Ваш воінскі шлях?

**Адказ:** У чэрвені 1941 года я заканчваў Гомельскі педагагічны інстытут. У першыя дні вайны, як і ўсе мае равеснікі, быў мабілізаваны і пасланы на Бранскі фронт. Ужо па дарозе на Браншчыну сустрэўся з жахамі вайны. Многія мае сябры загінулі ад бомбаў. Тады яшчэ нам здавалася, што вайна патрывае некалькі тыдняў, аднак яна, праклятая, цягнулася амаль чатыры гады. Спачатку я адступаў з Бранскім фронтам аж да Ефрэмова, пасля наступаў. Удзельнічаў у жорсткай бітве на Курскай дузе, дзе сутыкнулася два мільёны салдат, тысячы танкаў, тысячы самалётаў. Бітва гэта ніколі не сатрэцца з маёй памяці. Ад выбухаў і руху машын не было відаць сонца. Жудасная сцэнерыя. Жудасная і незабыўная. Там я першы раз сутыкнуўся з Ракасоўскім. Ах, які гэта быў генерал — высокі, прыгожы, з разумным тварам, энергічны і ветлівы, а пры гэтым культурны. З-пад Курска

(Працяг на стар. 4)



Першы злева — Паўлюк Пранузa сярод польскіх і савецкіх ветэранаў. Апошні справа — славуты савецкі разведчык, а сёняшні пісьменнік, Авідый Гарчакоў.

# НАСТАЎНІКАМ ПАД РАЗВАГУ

(Працяг са стар. 1)

культурнага сужыцця і супрацоўніцтва, а таксама грамадзянскай паставе і пачуццю адказнасці за свае абавязкі. Уводзіны вучняў у геаграфічную праблематыку і растлумачэнне з'яў трэба пачынаць ад элементарных спраў. Выхадным становішчам тлумачальнага працэсу павінны быць вобразы дыферэнцыяцыі геаграфічнай прасторы. Служыць гэтаму маюць урокі па-за школьным залам. Назіранне прыгажосці роднага краявіду, помнікаў старадаўнасці, мастацкіх твораў узбагачае вучня. Дасследчыя працы стварaюць нагоду для непасрэдных кантактаў з людзьмі — жыхарамі вёсак і гарадоў, працаўнікамі розных прадпрыемстваў і дзяржаўных устаноў. Як жа інакш адчувае і разумее моладзь гісторыю свайго рэгіёна, калі знаёміцца з яго намацальнай рэчаіснасцю. У выніку выступае навучанне праз перажыванне, родзяцца акрэсленыя адносіны да розных сфер рэчаіснасці, развіваюцца зацікаўленні ўласным і іншымі рэгіёнамі краіны, развіваюцца і замацоўваюцца патрыятычныя сувязі з усім, што роднае. Густаў Вутке, вялікі польскі энтузіяст краязнаўства і заслужаны дыдактык геаграфіі, пісаў: „Краязнавец пазнае свой край не толькі розумам, мерай і лічбай, а таксама хваляваннем і захапленнем, здзіўленнем і радасцю, усмешкай і абурэннем".

Рэгіён, у якім жывем мы, беларусы — гэта спецыфічны рэгіён на карце Польшчы. Аб нашай іншасці сведчыць арыгінальнае драўлянае будаўніцтва, дамашняя абстаноўка, узорыстыя дываны і пасцілкі, прыгожа вышываныя ручнікі і макаткі, ганчарства і вырабы з саломы, кавальскае рамяство і г.д. Наша культура, як культура кожнага народа — гэта вынік нарастання пэўных якасцей, якія перадаюцца з пакалення на пакаленне. Зямля нашая нарадзіла людзей, творы якіх жывуць сотні гадоў, да сённяшніх дзён. Традыцыйная духоўная культура нашага народа праяўляецца яшчэ на вясковых вяселлях, хрысцінах, фэстах, дажынках. Шкада толькі, што ў вечнае забыццё адыходзяць ад нас народныя танцы, песні, абрады, сказы. Сучаснасць адпіхае ў забыццё старую, але багатую матэрыяльную культуру. Ад нас, настаўнікаў, залежыць тое, каб эстафета пакаленняў не была спынена, каб за намі не аказалася глухое маўчанне забыцця.

Прывыклі ўжо мы, што аб беларускіх справах гаворыцца ў школе амаль выключна ці найчасцей на ўроках роднай мовы. Стараўся я паказаць, што і на ўроках геаграфіі можна і абавязкова трэба многа часу прысвячаць на знаёмства з імі. Тое самае можна і трэба рабіць на ўроках геаграфіі, ведаў аб грамадстве і іншых прадметаў. А яшчэ існуе і дзейнічае ў школах мноства арганізацый. Справа ў тым, каб гэтыя арганізацыі, на чале з арганізацыяй зухаў і гарцэраў, не былі абыякавымі ці варожымі істотным справам беларускага нацыянальнага руху. Дзейнічаюць таксама гурткі вучнёўскіх зацікаўленняў...

Спадзяваюся, што мой тут голас не будзе адзіным і апошнім.

**Юрка Баена**




## МАЯ КАНЦЭПЦЫЯ

Рышард Бутайла ў сваіх „Трох справах і прапановах" змешчаных у „Ніве" ад 19 кастрычніка, прапануе чытачам аж столькі новага! А ў нас жа, як у нас: адну хацяб справу і то цяжка давесці да нейкага толку, не кажучы ўжо пра тры ды яшчэ і некалькі прапаноў.

Першая справа, якую кіруе ён на грамадскі разгляд чытачам „Нівы", гэта ўтварэнне беларускага культурна-асветнага фонду пры БГКТ. Каб дзякуючы яму, гэтаму фонду, можна было прымаць рэальны ўдзел у аўкцыёнах, на якіх гандлюю кніжкамі, важнымі для нашай нацыянальнай культуры. Задумаўся я над гэтым і ўспомніў нашых пісьменнікаў-„белавежцаў", з якіх пасмешышча чыняць „вярхі", не плацячы ім ні граша за іх кніжкі, і то каторы ўжо год! І наша Галоўнае праўленне БГКТ, як відаць, тут бяссільнае. А ці дасць яно рады яшчэ і з тым фондам? Прытым трэба памятаць, што чалавек не заўсёды моцны па сваёй натуры: старажытная кніжка — гэта не абыякі капітал, і мы ведаем, што не адна ўжо падобная кніжка неяк прапала з фондаў БГКТ... Таму для гэтай ідэі фонду трэба не толькі немалых грошай, але і цвёрдых маральна людзей.

А наконт другой справы, якую ўзняў Бутайла — ці друкаваць „Ніву" на польскай мове? — дык няма пра што і гаварыць тут, настолькі гэта справа мала сур'ёзная. Гэта дурніца і гульня ў жмуркі, і сам Бутайла, дарэчы, называе гэтую справу несусветнай недарэчнасцю. І праўда. Мала чым адрозніваецца ад яе прапанова друкаваць „Ніву" лацінскімі літарамі, або прынамсі некаторыя артыкулы на ёй. Адразу кажу: і гэтая справа нікудышняя! Па-мойму, быў бы гэта першы крок у напрамку дыскрымінацыі нас, паланізацыі сябе ўласнымі ж рукамі. Гэта не пройдзе! Ну і што, калі пры цары „Наша ніва" выдавалася двума алфавітамі, кірыліцай і лацінкай?! Царскім уладам галава не балела, што будзе з беларусамі, яны наогул не цікавіліся нічым, што было беларускае. Гэтыя ўлады аднолькава пагарджалі і беларускім і польскім, хоць — і такая праўда — да ўсяго польскага адносіліся яны ўсётакі з большай пашанай, чымсьці да беларускага, бо беларускае не было панскім, а было культураю мужыкоў.

У той, ужо вельмі далёкі нам час, шмат католікаў лічыла сябе беларусамі, і таму нават звычайным было тое, што „Нашу ніву" друкавалі таксама і лацінкаю. Сам жа Янка Купала паходзіў з каталіцкага роду, і ўсе беларускія пісьменнікі з XIX ст. Сын мужыка тады пісьменнікам не мог зрабіцца, бо хто ж паслаў бы яго ў школу на навуку? Толькі сын нейкага шляхцюка мог выйсці ў свет, таму наша культура тады мела даволі-такі каталіцкі характар. Але не цяпер, эпоха ўжо даўно не тая. Ды і што сказалі б на тое нашы

(Працяг на стар. 4)



(Працяг са стар. 3)

браты-беларусы з БССР?! На такі пералом?!

Ёсць аргумент, што моладзь наша не ўмее лёгка чытаць пабеларуску „гражданкаю“. Ну, але хто ж тут вінаваты ў гэтым?... Яна сама не хоча ўмець, хоць той „гражданцы“ вучаць яе ўжо ад сярэдзіны пачатковай школы, на ўроках хаця б рускай мовы, якая ў нас даўно абавязковая, як фізіка ці арыфметыка. Я не кажу ўжо пра ўрокі беларускай мовы, якія не з'яўляюцца абавязковымі і ходзяць на іх толькі найбольш свядомыя свайго, а значыць і найкультурныя вучні.

Бутайла мае прэтэнзіі і да „Сэрцайка“. Па-мойму, залішне ён чапляецца тут. „Сэрцайка“, на мой погляд, ёсць цалкам сур'ёзнае. Іншая справа, што пісьмы ў „Сэрцайка“ не заўсёды сур'ёзнымі людзьмі пішуцца. Некаторыя з іх часта шукаюць нейкай рамантыкі і прыгод. А гэта бывае толькі ў выдуманых аповесцях і раманах.

Во як, і пакуль гэта ўсё.

**Мікалай Панфілюк**

### Я ЧУЎ „ДУБІНЫ“

Я меў магчымасць быць на канцэрце вядомых ужо „Дубіноў“, які адбыўся ў беластоцкай філармоніі. Канцэрт гэты складаўся з дзвюх частак. У першай частцы выступілі больш вопытныя выканаўцы. Выкананне было „на выдатна“, і гэта датычыць усіх выканаўцаў: салістаў. дуэтаў і трыо.

У другой жа частцы канцэрта выступіў новаарганізаваны ансамбль спевакоў: салістка і двух гітарыстаў-спевакоў, агулам у ліку пяці асоб з аркестрам. Рэпертуар у іх таксама беларускі. Выканаўчы ўзровень гэтага новага ансамбля таксама высокі.

Заўвагі ў мяне такія: песенны рэпертуар, як у першай частцы, так і ў другой, быў такі, што кожную песню яны паўтаралі пад бурлівыя апладысменты ашалелай ад радасці публікі! Гэтым апладысментам, дарэчы, не было канца. Пра што гэта сведчыць? Сведчыць гэта пра тое, што „Дубіны“ дакладна трапілі ў душэўны настрой беларускага слухача. А цяпер яшчэ адна мая заўвага: аркестр, калі спевакі выконваюць песню, павінен быць толькі акампаніяментам, павінен іграць піянісіма, а не фортэ, і толькі калі спявак заціхае, тады можна націснуць фарцісіма. Трэба абавязкова звярнуць „дубінцам“ увагу і на вымаўленне, дыкцыю. Каб словы былі чутны выразна, каб песню можна было разумець, чуць яе кожнае слова. А так — музыка глушыла песні! Маладому ансамблю трэба таксама звярнуць увагу і на н'юансы. Увесь час спяваць на фортэ — гэта стамляе і слухачоў і выканаўцаў.

І на заканчэнне хочацца яшчэ раз павіншаваць „Дубіны“ з удачай!

**Кастусь Сідаровіч**, Беласток



## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Стары будынак на вуліцы Сврчэўскага ў Сямяцічах. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## БЕЛАСТОЦКІЯ ФАБРЫКІ МЭБЛІ

Сёння большасць людзей, якія атрымоўваюць кватэры ў блоку, старой мэблі ў новую кватэру не вязуць. Сёння можна купіць новую прыгожую мэблю без ніякіх клопатаў. А яшчэ ж не так даўно, некалькі гадоў таму назад за мэбляй стаялі вялікія чэргі. Людзі стаялі цэлымі днямі, стваралі спіскі і раз альбо два разы ў тыдзень збіраліся і правяраліся.

Да ліквідацыі „мэблевага голаду“ адчувальна прычыніліся Беластоцкія фабрыкі мэблі. Дырэкцыя і фабрыка № 1 знаходзяцца на Паўночна-Абвадовай шашы ў Беластоку. У ведамстве гэтай дырэкцыі знаходзіцца пяць фабрык: дзве — у Беластоку, па адной — у Ломжы і Сувалках, а таксама ў вёсцы Вараняны недалёка ад Саколкі. Асартымент прадукцыі гэтых фабрык разнастайны: многа мяккай мэблі, камплектаў для пакояў, кухняў і спальняў, шмат сегментнай мэблі (камплектнай і некамплектнай), а Вараняны даюць вырабы з ракіты.

Самай новай у БФМ з'яўляецца фабрыка № 1, якая была ўрачыста здадзена ў эксплуатацыю 2 верасня 1976 года. Працуе на ёй найбольш людзей — аж 617 чалавек (дадзеныя на 31 снежня 1985 г.), а паверхня яе прадукцыйных цэхаў займае 4,5 гектара. Яшчэ пяць год таму назад Беластоцкая фабрыка мэблі № 1 была найбольш сучаснай у Еўропе. Усе работы ў ёй механізаваны. Тут працуе шмат замежных машын, якія даюць высокую якасць прадукцыі.

Сярод камплектаў мэблі найбольш куплялі „Караліну“, якой у мінулым годзе было выпрадукавана 20680 камплектаў. Хваляць людзі таксама мэблевы камплект „Аквільён“, у 1985 годзе было выпушчана 5523 гэтых камплектаў.

Штодзённа ўсе пяць фабрык выпускаюць не менш 180 камплектаў рознай мэблі, гэта значыць — 32 вагоны.

У мінулым годзе БФМ мелі даць прадукцыю на 3 337 600 тысяч злотых. План быў выкананы ў 113,6%. 6,9% прадукцыі пайшло на экспарт. Галоўнымі пакупнікамі беластоцкай мэблі былі фірмы са Швецыі, Бельгіі, ФРГ і Францыі. Сёлета БФМ прададуць у заходнія краіны свае вырабы на паўтара мільёна долараў. За гэтыя грошы будуць куплены навейшыя машыны, якіх польская тэхнічная думка пакуль што не стварыла.

БФМ маюць магчымасці прыдзяляць высокія сумы на патрэбы рознага роду. У мінулым годзе больш 45 мільёнаў злотых было расходавана на інвестыцыі, у тым ліку на пакупку навейшых машын і абсталявання — 12,5 мільёна. Сёлета на інвестыцыі прызначана 50 мільёнаў злотых з фонду развіцця і 105 мільёнаў злотых з жыллёвага фонду — на пабудову блока, які ўжо прыдзяляецца 68 сем'ям. На сацыяльную дзейнасць у мінулым годзе было прызначана 6821000 злотых. Найбольш сродкаў расходавана на турыстычны адпачынак працаўнікоў і іх сем'яў.

Здароўем працуючых на БФМ апякуюцца тры палiклінікі прамысловай службы здароўя. Прафілактычнай дзейнасцю займаецца пяць медыцынскіх кабінетаў. Харчаванне наладжана ў сталовай і трох буфетах прадпрыемства.

Нельга абмінуць справу тэхнічнага прагрэсу і рацыяналізатарскага руху на БФМ. Праўда. што тут таксама яшчэ занадта доўгі працэс ад праекту да эфекту, аднак у мінулым годзе з прадстаўленых 47 рацыяналізатарскіх праектаў — 33 былі прыняты. Рацыяналізатарскія прапановы ў мінулым годзе прынеслі больш 8 мільёнаў злотых ашчаднасці. Вось, напрыклад, на фабрыцы № 1 рацыяна-

(Працяг на стар. 6)

## МАСТЫ НАШАЙ ДРУЖБЫ

(Працяг са стар. 3)

маё падраздзяленне было накіравана ў Беларусь. Фарсіраваў Днепр недалёка ад Лоева, а гэта ж мая родная Гомельшчына. Уяўляеце, якія пачуцці напаўнялі маё сэрца?

Пасля была славутая аперацыя „Баграціён“, у часе якой Савецкая Армія вызваліла ўсю Беларусь. Ішоў я праз Рэчыцу, Мазыр, Слуцк, Баранавічы і правей Брэста.

**Пытанне:** Ну, а пасля была Польшча?

**Адказ:** Так. Мой шлях праходзіў праз Седльцы, Гарволін і Варшаву. У жніўні мы затрымаліся і чакалі аж да студзеня 1945 года. Не забуду 15 студзеня. Раніца, туман, снег, і мы пайшлі ў наступленне, якое давяло нас аж да Одэра. Па дарозе была Варшава, Лодзь, Познань. Мой шлях закончыўся ў Берліне, на калонах рэйхстага ёсць і мой подпіс.

**Пытанне:** Значыць, ваявалі Вы амаль ад першага дня вайны і да апошняга. Трэба сказаць. што шчасліва ваявалі, калі засталіся ў жывых?

**Адказ:** Так, быў толькі два разы лёгка паранены. А колькі ж сяброў пахаваў па дарозе! Я быў у супрацьавіяцыйнай артылерыі, і вораг перш за ўсё стараўся знішчыць нас. Было цяжка, часта, здавалася, невыносна. Але, як бачыце, вынес, у нейкай малой ступені дапамог вызваленню не толькі савецкіх народаў, але і народа польскага. Мару аб тым, каб ужо ніколі на зямлі не было вайны. Часта яна мне, праклятая, сніцца, праследуе, і думаю, што не пакіне да канца жыцця.

**Пытанне:** Які быў Ваш літаратурны шлях?

**Адказ:** Пачаў я ўсур'ёз пісаць у 1940 годзе. У гэтым жа годзе атрымаў ад М. Лынькова такую тэлеграму: „Запрашаю вас на курс-канферэнцыю маладых пісьменнікаў. З рэвалюцыйным прыветам М. Лынькоў“. Гэта для мяне, тады маладога чалавека, было як бы пасланнем ад Бога. Я вывучаў у школе многія творы М. Лынькова і вельмі мне яны падабаліся. Тэлеграма М. Лынькова для мяне асабіста была чымсьці такім, аб чым я ніколі не марыў. Калі я прыехаў у Мінск, быў моцна ўражаны трамваямі, якіх ніколі дагэтуль не бачыў. Падышоўшы да Саюза пісьменнікаў, першы раз у жыцці ўбачыў жывога Купалу. Стаяў ён з кульбакай у ру-

## Навучанне беларускай мовы ў 1986/87 г.

**(статыстычная даведка)**

Паводле афіцыйнай школьнай статыстыкі, у бягучым 1986/87 годзе беларуская мова вывучаецца 4343 вучнямі пачатковых і сярэдніх школ Беласточчыны ў параўнанні з 4275 вучнямі ў мінулым годзе. Такім чынам, агульны абсяг навучання роднай мовы павялічыўся на 68 вучняў.*)

Колькасць навучэнцаў агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання ў 1986/87 годзе складае 643, г. зн. на 53 вучняў больш, чым у мінулым годзе, у тым ліку ў Бельскім ліцэі 394 (+38) і ў Гайнаўскім 249 (+15).

Пасля шматгадовага перапынку адноўлена навучанне беларускай мовы ў пачатковых школах у Гарадку, Шымках, Новай Волі, Залуках, Мілейчыцах і Сяміхочах, а таксама ў школьных філіяльных пунктах у Ялоўцы і Вольцы Выганоўскай. Адначасова спынілася яе навучанне ў Крывой у сувязі з ліквідацыяй гэтай школы. У выніку гэтых змен, агульны лік пачатковых школ з прадметам беларускай мовы разам з філіяльнымі пунктамі складае зараз 60 у параўнанні з 53 у мінулым школьным годзе**).

Агульная колькасць вучняў пачатковых школ, якія вывучаюць беларускую мову, павялічылася толькі на 15 і ў 1986/87 годзе складае 3700, у тым ліку ў II класах — 546, у III — 509, IV — 525, V — 549, VI — 517, VII — 540 і VIII — 514. Стан навучання ў асобных школах паказвае табліца, у якой у рубрыцы „А" падаецца колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, і ў рубрыцы „Б" — іх удзел (у працэнтах) у агульнай колькасці вучняў данай школы без першага класа.

Як сведчаць дадзеныя, прадстаўленыя ў табліцы, становішча навучання беларускай мовы ў паасобных школах надалей выказвала самыя разнастайныя тэндэнцыі. Так, у 1986/87 годзе толькі ў 8 школах паказчык навучання беларускай мовы (гл. рубрыку „Б") не змяніўся ў параўнанні з мінулым годам, у 23 школах пагоршыўся, чаго не змагло кампенсаваць яго паляпшэнне ў 21 школе. Такім чынам невялікі рост навучэнцаў роднай мовы ў гэтых школах быў дасягнуты выключна шляхам аднаўлення яе навучання ў сямі згаданых школах. Затое зменшыўся лік навучэнцаў у тых школах, у якіх у 1985/86 г. выкладалася беларуская мова. Дэстабілізацыя яе навучання з'яўляецца красамоўным адлюстраваннем дзеяння г.зв. прынцыпу дабраахвотнасці ў яго цяперашняй інтэрпрэтацыі.

**НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ПАЧАТКОВЫХ ШКОЛАХ**

| | 1985/86 | | 1986/87 | |
|---|---|---|---|---|
| | А | Б | А | Б |
| Дубічы Царкоўныя | 105 | 100,0 | 96 | 100,0 |
| Пашкоўшчына | 70 | 100,0 | 59 | 100,0 |
| Ласінка | 68 | 100,0 | 58 | 100,0 |
| Дубяжын | 58 | 100,0 | 55 | 100,0 |
| Волька Нурэцкая | 53 | 81,5 | 52 | 100,0 |
| Крывец | 48 | 100,0 | 50 | 100,0 |
| Стары Корнін | 40 | 100,0 | 33 | 100,0 |
| Барысаўка | 33 | 97,0 | 30 | 100,0 |
| Бельск — № 3 | 587 | 100,0 | 645 | 99,8 |
| Клейнікі | 171 | 99,4 | 153 | 98,7 |
| Махнатае | 63 | 98,4 | 54 | 98,2 |
| Орля | 214 | 96,0 | 243 | 96,4 |
| Курашава | 68 | 93,1 | 64 | 95,5 |
| Чыжы | 216 | 100,0 | 196 | 94,7 |
| Пасынкі | 96 | 95,0 | 85 | 94,4 |
| Новы Корнін | 53 | 94,6 | 53 | 93,0 |
| Арэшкава | 77 | 88,5 | 81 | 91,0 |
| Аўгустова | 36 | 100,0 | 29 | 87,9 |
| Ляшукі | 66 | 85,7 | 58 | 86,6 |
| Дубіны | 121 | 87,0 | 112 | 86,1 |
| Дашы | 60 | 77,9 | 58 | 82,9 |
| Малінікі | 90 | 74,3 | 85 | 81,2 |
| Старына | 12 | 50,0 | 19 | 79,2 |
| Новае Беразова | 58 | 80,5 | 55 | 78,6 |
| Грабавец | 40 | 58,8 | 49 | 75,4 |
| Райск | 24 | 70,6 | 24 | 72,7 |
| Трасцянка | 62 | 75,6 | 57 | 71,3 |
| Янова | 55 | 74,3 | 42 | 71,2 |
| Сакі | 50 | 69,4 | 51 | 68,9 |
| Храбалы | 83 | 73,4 | 65 | 67,7 |
| Палічная | 39 | 54,9 | 45 | 67,2 |
| Старое Ляўкова | 115 | 84,6 | 95 | 65,5 |
| Семяноўка | 53 | 69,7 | 51 | 64,6 |
| Нурэц | 52 | 49,5 | 56 | 58,9 |
| Малешы | 23 | 65,7 | 19 | 57,6 |
| Рыбалы | 69 | 58,0 | 69 | 56,6 |
| Рагачы | 30 | 45,5 | 31 | 52,5 |
| Краснае Сяло | 31 | 49,2 | 28 | 44,4 |
| Нараўка | 83 | 36,7 | 81 | 34,3 |
| Зубры | 15 | 33,3 | 14 | 31,1 |
| Іванкі | 11 | 23,9 | 11 | 30,5 |
| Кляшчэлі | 34 | 19,8 | 47 | 26,9 |
| Гайнаўка — № 3 | 39 | 22,7 | 46 | 25,3 |
| Залукі | — | — | 12 | 24,0 |
| Нарва | 52 | 22,9 | 54 | 23,3 |
| Клюковічы | 16 | 16,8 | 18 | 19,8 |
| Новая Воля | — | — | 18 | 19,6 |
| Гайнаўка — № 2 | 126 | 13,3 | 140 | 13,5 |
| Шымкі | — | — | 23 | 13,3 |
| Сяміхочы | — | — | 10 | 9,3 |
| Шудзялава | 16 | 11,0 | 11 | 7,1 |
| Гарадок | — | — | 30 | 6,1 |
| Мілейчыцы | — | — | 10 | 3,5 |
| Гайнаўка — № 1 | 40 | 4,1 | 23 | 2,3 |
| Крывая | 30 | 96,8 | — | — |
| Філіяльныя пункты | | | | |
| Тыневічы Влк. | 15 | 100,0 | 10 | 100,0 |
| Плёскі | 6 | 100,0 | 10 | 100,0 |
| Ялоўка | — | — | 9 | 100,0 |
| Волька Выганоўская | — | — | 7 | 63,6 |
| Пілікі | 6 | 50,0 | 6 | 54,5 |
| Паўлы | 7 | 50,0 | 5 | 35,7 |
| Разам | 3685 | | 3700 | |

**Ю. Туронак**

*) Ад рэд. Паводле звестак з ГП БГКТ, беларускую мову пачалі вывучаць яшчэ 43 дзяцей у Чаромсе.

**) гл. „Ніва", 1 XII 1985, № 48.

# ПАРНАСІК

*чытальніцкая літсупалка на негарантаваных паях*

### АДВУЧЫЎСЯ

Паляўнічы Ніканор
Выйшаў раніцай на двор,
Паглядзеў на блізкі лес
Ды за стрэльбаю палез.
Трэба ж зайку ўпаляваць,
Гасцей ім пачаставаць.
Ў лес пайшоў. Хадзіў, хадзіў,
Аднак заяц хітры быў,
Перад стрэльбай чуе страх,
Не варушыцца ў карчах.
А тым часам Ніканор
Ўсё далей, далей папёр.
Ўжо й балота. Застраг бот.
Льецца з Ніканара пот.
Ў тым балоце спаў кабан,
Такі чорны, як саган.
Спалохаўся мужычка,
І з балота даў стрычка.
Паляўнічы ж Нікапор
Кінуў стрэльбу ды папёр.
Ён бяжыць, а дзік за ім,
Напужаў яго зусім.
Нам дык смех, а яму страх,
Ўсё бяжыць што сіл у нагах.
Так дабег аж да сяла,
І ахвота ўся прайшла.
Паляваць вось з тэтых пор
Адвучыўся Нікапор.

**Улас**

## НЯВЫКАРЫСТАНЫЯ РЭЗЕРВЫ

Суседнія вёскі гміны Чыжы: Мора і Койлы, Чыжы і Курашава, дзе такія самыя землі і сенажаці ды такая ж сельскагаспадарчая тэхніка. Але вось гаспадарчыя вынікі неаднолькавыя, асабліва ў жывёлагадоўлі. У Моры і Койлах наступіла памяншэнне быдла на 19 і 21 штуку, свіней — на 79 і 23 штукі, у той час, калі ў Курашаве і Чыжах значна павялічылася жывёлагадоўля — быдла на 24 і 65 штук, а свіней — на 91 і 219 штук (дадзеныя з чэрвеньскага сельскагаспадарчага спісу б.г.).

У чым справа, чаму такая вялікая розніца ў жывёлагадоўлі ў суседніх вёсках? Над гэтым цяпер задумваюцца гмінныя ўлады, шукаючы прычыну.

**(мх)**

твой сын нарабіў!" Аказалася, што ў малога панос. Хацеў ён на двор выйсці і не паспеў. І пакінуў „сляды". Нічога не гаварачы, прыбрала я хату і сына пакупала. На другі дзень кары дубовай зварыла. Сын некалькі разоў выпіў, і панос прапаў.

У маіх свёкраў было многа авечак, але яны нічога з воўны не рабілі. Свёкар калаўротка не даваў у хаце трымаць. Казаў, што бурчыць толькі і драмаць перашкаджае. Таму ніхто і не праў. Нават палатна на сарочку не мелі. Я прывезла цэлы куфэрак палатна, то свякруха хутка за яго ўзялася. Пачала шыць сарочкі і кашулі сваім дзецям. Але здарылася, што швагар забраў маю маці да сябе, каб, як кажуць, дагадаваць да смерці. Тады я палатно і туды дала. Ой, як кінулася да мяне свякруха: „Ты чаго ўсё з хаты аддаеш! Трэба каб у хату валакла, а не з хаты!" — крычала. Я ўжо не вытрымала: „А што гэта, вашае? Вы яго напралі, наткалі? Пасейма лён абэ канолі, то я вам і тут нарабілю палатна!". Але ж яны былі голыя, як мышы. Тое, што купілі, тое і было. Ды на столькі дзяцей не накупляешся, грошай не было многа, ды і выпіць мужчыны любілі. З гаспадаркі грошай не вельмі возьмеш.

Помню, у свякрухі такі нядобры певень быў, заўсёды Коліка біў. На падворак дзіцяці выйсці не даваў. Настала я на Мішу, каб зарубаў пеўня. Міша спачатку не хацеў, але ўрэшце-рэшт узяў ды зарубаў. Ой, што тады рабілася! Дзень-дня паўтаралі адно і тое ж: „Ты пеўня забіла, цяпер куры без пеўня!" А што было рабіць? То ж мог той певень вока дзіцяці выбіць.

Калі перайшлі мы на маю гаспадарку, то трошкі лягчэй стала. Я ўжо была сама гаспадыняй, і ніхто мяне не грыз. Муж больш памагаў. Дзеці сталі падрастаць, у школу пайшлі.

Праўду кажуць, што малыя дзеці спаць не даюць, а вялікія жыць. Я так перажыла смерць сына, што цяпер не магу ў сябе прыйсці. Працаваў ужо трактарыстам, грошы свае меў, жаніцца хацеў, а тут на табе, прычапілася нейкая хвароба, завезлі ў Беласток, зрабілі аперацыю, але не так як трэба. Пачалі рабіць нанава, і як зрабілі, так і памёр бедны. За што гэта мяне так Бог пакараў? Перад смерцю сына то чорная курка хадзіла ўсё ды спявала. А калі ён ужо памёр, то перастала спяваць. Але я яе зарубала, глядзець на яе не магла.

Мой муж такі баязлівы, што аж смех бярэ. Трэба было хвораму Янку кроў даць, то мы тры разы ў Беласток ездзілі. Заехалі раз, зайшлі куды трэба, а ён кажа: „Не пайду, страшнавата". Таксама і на другі раз. Толькі на трэці раз ён рашыўся. І хто гэта яго ведае, можа запозна было? Я ўсё думаю, што мой Янка жыў бы, каб адзін хлопец не даў яму марожанае, так яму пасля яго і пагоршала. А мо і гэта не прычына, мо ўжо смерць яго такая.

Помню, я яшчэ дзеўкай была, прыехаў наш сваяк і кажа: „Дай руку, то скажу табе тваю будучыню". Я яму дала левую руку, а ён толькі глянуў і сказаў: „Мужа добрага мець будзеш, але на старасць уласнай хаты мець не будзеш". Так яно і ёсць. Пачалі рабіць гэты залёў. Грошы людзям за ўсё заплацілі і папісалі тых, хто ў блокі ісці хоча. Мы таксама ў блок падаліся. Толькі яшчэ пакуль можна, трымаемся тут. Кароў ужо папрадавалі, толькі крольікі, авечкі і свінні засталіся. Блок — хата не свая. Дзяржаўная.

Сёння ў блоку, а заўтра прагнаць могуць. Тут хаця бульбы наварыш, колькі захочаш, а там і гэтага не будзе.

Сыны працуюць і таксама рэдка прыязджаюць. Мне самой авечак трэба пасвіць. Муж пасе, калі яму хочацца, ён работы многа не нарobіць. А тут — не паспееш пасадзіць бульбу, капаць трэба. Вось, напрыклад, гэты год. Я бульбу капала, а муж і сын надумалі нешта ехаць трактарам па піва. Але я рашыла: „Не, так не будзе!" Яшчэ налюцца, можа міліцыя злавіць і правы забраць, або на калегію падаць. Лягла я пад трактар і кажу ім: „Паедзеце тады, калі мяне пераедзеце". Пастаялі, пасварыліся і пайшлі на поле. Вось якое маё жыццё! У блоку так не будзе. Бо гаспадаркі такой вялікай не будзе. Там далі невялікія дзялянкі і хлеўчыкі, каб свінню і куры трымаць можна было. А ў сярэдзіне блока як хораша зрабілі! Толькі памыць вокны, паставіць мэблю і дроў нарыхтаваць, каб было чым пад плітой паліць, бо газу яшчэ няма. Падлога выкладзена, нават дываноў не трэба. Вось як нам, сялянам, дагадзілі. Хоць на старасць зажыву.

Запісала **Аўрора**

 

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ПЕСНІ, СПЯВАНЫЯ АД ІМЯ МАЛАДОЙ І ПРЫМАКА

Калі „перапіванне“ заканчвалася, сабраныя вясельныя госці ў далейшым прадаўжалі бесклапотную бяседу. Аднак у гэту бесклапотнасць урываліся таксама тэксты, насычаныя сумам і непакоем, а выклікаными перспектывай будучага сямейнага жыцця маладой. Асабліва часта ў такіх песнях паяўлялася постаць недабразычлівай у адносінах да маладзіцы свякрухі. Цікавы ў такім аспекце з'яўляецца тэкст з вёскі Тарнопаль:

Ты, аддай мане, баценька,
маладую,
Купі мне ложачко
залаценькае,
Прыкуй да яго зязюльку
серабрэньку.
Вана будзе рано каваці,
Мане, маладую, прабуджаці,
Бо чужая матуля не збудзіт,
А зойдзе да суседаў і асудзіт.

Вельмі распаўсюджана на Беласточчыне песня, у якой гаворыцца аб цяжкіх абавязках маладзіцы:

Выйсці замуж — трэба знаці:
Позно легчы, рано ўстаці.
Позно легчы, рано ўстаці.
Хату, сені замятаці.
Хату месці, сені месці.
Яшчэ мужу есці несці.
Хату, сені замятаці.
І старому, і малому
Дагаджаці, дагаджаці.

Цікава, што ў вясельным рэпертуары знаходзіцца значная колькасць тэкстаў, якія ў мінорным тоне малююць жыццё не толькі маладой, якая ідзе ў чужую сям'ю і чужую хату, але і маладога, які ідзе ў прымы, што ў многіх вёсках Бельшчыны і Гайнаўшчыны называюцца прыступамі. І ў народнай інтэрпрэтацыі, і ў песнях лёс прымака трактуецца як лёс нявольніцкі. жабрачы. Такі падыход да справы праяўляецца, між іншым, у папулярнай песні:

Цвіце, цвіце чарэшанька,
А ягад не мае.
Хто ў прымаках не быў,
Той гора не знае.
Бадай свіне паздыхалі
І клуня згарэла,
Як мне тая прымацка
Доля надаела.

Варта ў гэтым месцы спаслацца на ацэнку жыхаркі вёскі Бяндзюга Наталлі Міруць:

„Ой, на тых веселях то колькі было смеху, то толькі само было і плачу. Бывало, як запорожнікі пачнут співаць разны смешны песні аб маршалку, аб сваньках, аб дружках чы маладых, то ўсе так, бывало, зарагочут, што аж лямпы эгаснут. А з другого боку то зноў было і такое, што як пачнут співаць весельнікі аб тым, што жджэ маладую ў чужой сям'і і чужой хаці, то аж скура ад страху церпне. То яно нічого дзіўного, што пры такіх песнях, а наймацней тады, калі співалі аб злых свекрухах — пачці кожна маладая пачынала плакаць. І ні толькі яна. Калі пачынала плакаць маладая, то пачынала плакаць і яе маці, і матулька, і цёткі маладое, і таяся з дружок. Такі, бывало, лямант паднімецца, як бы гэто былі мерліны, а ні веселе. Або хоць бы песні аб прымаках. У іх таксамо толькі было таго гора і беды, што часамі і некаторы мужчыны слезу пускалі. Ну, але яно ведомо, што ні можэ быць такого, каб на веселі доўго плакалі, бо што ж гэто было б за веселе. То як толькі ужэ того плачу замного, то зараз хтось з весельнікоў крыкне: „горко, горко“. Ну, то ўсе іншы падхвацят і тут маладые крэнту-вэнту і мусят пацалавацце. А калі ўжэ цалуюцца, ну то ўжэ і той цэлы плач канчаецца. Ну, скажы, чаму табе ўсё гэто так моцно трэба ведаць? Тож усё гэто ўжэ чуць ні зусім прапало, то нашто яго зноў адграбаць? А ўсё ж такі было калісь цікаво на веселях. Гэто табе не тое, што сегодне. Сегодне пустэча якаясціка, от што“.

А. Баршчэўскі

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мне, Сэрцайка, 23 гады. І ўсё было б вельмі добра, калі б у нашай сям'і не вынікла пэўная справа. У мяне ёсць хлопец, з якім мы хадзілі цэлых два гады. І прыстойны ён, і зарабляе добра, і кахаем мы адзін другога, і, здавалася б, няма ніякіх перашкод на шляху да нашага супольнага шчасця. Аднак бацькі мае ні ў якім выпадку не згаджаюцца на наш шлюб, бо ёсць у мяне старэйшая сястра. Ёй ужо больш 30 год, але яна яшчэ не замужняя. Мае бацькі лічаць, што заўсёды ў сям'і павінна найперш выйсці замуж старэйшая дачка. Калі ж першая гэта зробіць малодшая дачка, то старэйшая ўжо назаўсёды астанецца ў старых дзеўках. Мяне гэта проста спачатку рассмяшыла: прычым тут я? Але бацькі ўпіраюцца пры сваім, гаворачы, што нават вяселля нам не зробяць, калі мы вырашым узяць шлюб, ды і пасагу не будзе.

Ну і скажы, чаму я маю прыплачваць сваім шчасцем за тое, што мая сястра дагэтуль не змагла знайсці сабе хлопца? Не крывая ж і не сляпая, а дзяўчына даволі прыгожая, ды і адукацыю не найгоршую мае: закончыла прафесіянальную школу. Як растлумачыць маім бацькам, што яны сваімі ўчынкамі могуць знішчыць шчасце і другой дачкі, не даючы дазволу ўзяць шлюб. Што, яны хацелі б, каб дзве старыя дзеўкі засталіся з імі назаўсёды? А, зрэшты, так ці так, мы з Віктарам пажэнімся. Няхай сабе і не робяць вяселля, ды і пасагу не трэба: на ўсё заробім уласнымі рукамі. Ды толькі сумна, што бацькі не хочуць зразумець, якую крыўду яны робяць мне, сваёй дачцы.

Ніна

Ніна, вядома, што твае бацькі хацелі б, каб усё было па чарзе і па-людску. Яны думаюць так: ты — маладая, яшчэ час маеш. а ў тваёй сястры гады ўцякаюць ужо вельмі хутка. І калі выйдзеш замуж ты, а яна застанецца надалей дзеўкай, усе будуць гаварыць: во, якая яна старая і ніякая, гэта ж падумаць, да трыццаці год ніхто яе не схацеў!

Гэтага баяцца твае бацькі. Яны думаюць, што тваё шчасце знішчыць шчасце тваёй сястры, і цяпер ужо нават глянуць на яе ніхто не схоча. Аднак у сённяшнія дні на ўсе гэтыя справы людзі глядзяць наогул крыху інакш. Кожны выходзіць замуж тады, калі хоча, а найчасцей, калі „мусіць“ ужо выйсці. Мала хто аглядаецца на нейкія сямейныя справы, маладыя хочуць быць разам, быць шчаслівымі — і ўсё. І бацькі тут нічога не зробяць.

Вядома, можна было б справу закончыць вельмі проста. Найлягчэйшы спосаб на гэта — цяжарнасць (прабач мне, Божа!). Тады твае бацькі вельмі хацелі б, каб цябе твой хлопец хаця ўзяў. Але не хачу цябе намаўляць да грэху. Можна ж проста растлумачыць бацькам, што іншага шчасця ў сямейным жыцці ты шукаць не хочаш, што бачыш яго толькі побач з Віктарам, што марыш пра яго, сніш па начах. Скажы ім, што не хочаш ні вяселля, ні іхняга пасагу, але не хочаш адыходзіць ад усіх у сварцы, бо хаця і выйдзеш замуж, то бацькі заўсёды застануцца для цябе бацькамі. Можа, зразумеюць, як зразумеюць і тое, што часы цяпер змяніліся.

Сэрцайка

P.S. Ведаю людзей, якім рабілі шумныя, „выстаўныя“ вяселлі, дзе былі найдаражэйшыя і найпрыгажэйшыя падарункі, дзе было добрае пітво і ежа, а жывуць жа вось — як сабака з катом. Вялікае вяселле не заўсёды прыносіць шчасце.

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### КАПУСТА, ТУШАНАЯ СА СВІНІНАЙ І КАЎБАСОЙ ЦІ КАПЧОНЫМ БАЧКОМ

На 1 кг капусты бярэм 150 г каўбасы або капчонага бачку. 300 г свініны, 1 морквіну, 1 цыбуліну, 1,5 сталовай лыжкі памідорнага перацёру, 2 чайныя лыжачкі цукру, 2 чайныя лыжачкі мукі, 1 сталовую лыжку 3-працэнтнага воцату, зеляніну, перац, соль.

Пашаткаваную капусту стушыць у невялікай колькасці мяснога адвару. Свініну і каўбасу або капчоны бачок ды моркву нарэзаць кавалачкамі, а цыбулю — саломкай. Усё гэта па чарзе падсмажыць, дадаць воцат, падсмажаны памідорны перацёр і муку. Пасля чаго перамяшаць з капустай, дадаць соль і перац і стушыць. Падаючы на стол, капусту пасыпаць пасечанай зелянінай.

### ФАРШЫРАВАНЫЯ БУРАКІ

На 4 буракі трэба ўзяць 300 г ялавічыны, 1 цыбуліну, 2 сталовыя лыжкі масла, 1 шклянку соусу, 2 сталовыя лыжкі 3-працэнтнага воцату, перац, соль.

Буракі зварыць, дадаючы воцат. Пасля выразаць сярэдзіну нажом ці спецыяльнай лыжачкай. Ялавічыну прапусціць праз мясарубку, дадаць соль, перац і падсмажаную цыбулю. Напоўніць буракі атрыманым фаршам. Падрыхтаваць соус, заліць ім буракі і запячы ў духоўцы.

**Соус** робім наступным чынам: на 2 сталовыя лыжкі мукі бярэм 1 морквіну, 1 пятрушку, 1 цыбуліну, паўшклянкі памідорнага перацёру, 3 сталовыя лыжкі тлушчу, 1 чайную лыжачку цукру, 3 шклянкі мяснога адвару, 1-2 лыжкі сухога віна, соль.

Муку падсмажваем, каб атрымаўся крэмавы колер, пасля чаго разводзім яе мясным адварам. Моркву, пятрушку і памідорны перацёр падсмажваем, перакладаем у адвар і варым на малым агні мінут 20-30. У канцы гатавання дадаем соль і віно, пасля чаго працэджваем і даводзім да кіпення.

## СОННІК

48

**Камінар** — шчасліва пазбяжыш небяспекі; быць ім — пажаданыя госці.
**Камізэлька** — хуткі візіт.
**Кампанія** сяброўская — сумятня ў тваіх адносінах з людзьмі; прымаць яе ў сябе — цікавыя знаёмствы.
**Камора** — самотнае жыццё.
**Каналы** — карысць з-за смерці прыяцеля.
**Канапа** — спакойная старасць.
**Канарэйка** — знойдзеш сябра (сяброўку); лятучая — вясёлая звестка; спяваючая — не паддайся спакусам і хвальбе.
**Канаць** самому (ой) у сне — моцнае, крамяное здароўе; бачыць канаючага — добры знак для таго, каго бачыш; канаючая жанчына — страта спадчыны.
**Канверт** — таямніцу здрадзяць.
**Канвульсіі** — твой даўжнік страціць маёмасць.
**Кандуктар** (на чыгунцы) — падарожжа ў прыемнай кампаніі.
**Кандэлябр** — вер у свае сілы.
**Канец** якой-небудзь рэчы або дзеяння — расстанне з прыяцелямі; канец свету — дурнота перашкаджае ў жыцці.
**Канонік** (заслужаны свяшчэннік) — спакойная старасць.
**Канаплі** — хатнія непрыемнасці; рваць — спадчына; прасці — хуткае замужжаства.
**Кансервы** — даход, выйгрыш.
**Кантора** (бюро) — цяжкасці і клопаты.
**Кантрабандыст** — добры заробак, але нячэсны, нячысты.
**Кантракт** — вялікая спекуляцыя, камбінатарства.
**Канькі** мецьь — пераменнае шчасце; бачыць у іншых — зацішша ва ўсіх справах.
**Канцэрт** з музыкай і спевамі — хворым — выздараўленне, здаровым — радасць.



 

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## У ГАРАДОЦКАЙ ШКОЛЕ

І зноў беларуская мова завітала ў гарадоцкую школу!

Я пабывала на ўроку, які вядзе настаўніца Марыя Ваўранюк. Тут вучацца дзеці з другога і трэцяга класаў. Іншая група (чацвёрты і пяты клас) родную мову пазнае з настаўніцай Раісай Высоцкай. На ўрок я прыйшла пасля экскурсіі па школе імя братоў-партызанаў, Міхала і Аляксандра Храноўскіх. Намеснік дырэктара школы (дырэктарам з'яўляецца Зінаіда Кандрусік) Леанід Метыс з гордасцю паказваў пярсторныя, добра падрыхтаваныя класы, сталоўку, святліцу, школьны музей, музей рабочага руху, фізкультурную залу, прасторную ўпрыгожаную самімі дзецьмі залу, дзе некалькі класаў адразу можа глядзець фільм. У зале вялікі белы экран. Такой залы мне не давялося бачыць ні ў якой іншай гмінная школе. Намеснік дырэктара паказаў мне хронікі — памятныя „залатыя" кніжкі школы. Асабліва цешаць вучняў падзякі за іх працу. Заробленыя імі грошы дзеці высылаюць на фонд аховы здароўя, на пабудову Падляшскага універсітэта, на пацярпеўшых ад пажараў, для ахвяр землетрасення ў Мексіцы, для галадаючых у Эфіопіі і на дапамогу для звяроў. Вучацца дзеці дапамагаць усім і ўсе, пачынаючы ад наймалодшых, такіх, якія сядзяць цяпер на ўроку роднай мовы.



На ўроку беларускай мовы ў другім і трэцім класах. Урок вядзе настаўніца Марыя Ваўранюк.

— Вернемся цяпер да другой старонкі, на якой літара... „І".

— Я, я буду чытаць! Я буду пісаць! — дзеці высока паднімаюць рукі.

— А цяпер будзем знаёміцца з літарай...

— Гэта „П", — крычаць дзеці, якія паглядзелі ўжо на малюнкі.

— Паліла маланка. Паламала нашу ліпу, — чытае настаўніца, а Анджэла і Кася старанна пішуць новую літару на дошцы.

Пасля гэтага ўрока дзеці ўсёй школай пойдуць сёння ў „Марш міру" з кветкамі, сцягамі, белымі галубамі і песнямі да помніка. Дзеці ўсе за мір!

Міра Лукша
Фота С. Яроцкага



— Паліла маланка. Паламала нашу ліпу, — чытаюць Куба і Тамаш.

**НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ**

*Па просьбе дзяцей з Дашоў друкуем сцэнку, якую можна будзе паставіць на навагодняй ёлцы.*

**Міхась Скрыпка**

## ВЫКРУЦІЎСЯ

**ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ**

**Раман.**
**Лена — сястра Рамана.**
**Паўлік.**
**Цётка Антаніна — бабка Рамана і Лены.**

*Прыбраны пакой. Стол, крэслы, канапа, этажэрка, вазоны. На сцяне — гадзіннік. Трэцяя гадзіна дня. Лена палівае вазоны, бабка Антаніна нешта вяжа.*

Бабка *(пагладаючы на гадзіннік)*. От шалапуты, прасіўся ў лес з Паўлікам да другой, а ўжо трэцяя гадзіна дня. І дзе ён падзеўся? А яшчэ чэснае слова даваў, што вернецца своечасова.

Лена. Ой, бабуля, знайшлі каму верыць. У нашага Рамана слова — вецер. Яму даць слова, што казлу мэкнуць.

Бабка. Даць слова і не стрымаць! Так жа можна людзей, сябе ашукаць.

Лена. Сябе то ён не ашукае.

Бабка. Уга! Ды яшчэ як можна ашукаць. Памятаеш, апавяданне такое ёсць. Хлопчык пасвіў авечак і, захацеўшы напалохаць людзей, закрычаў: „Ваўкі! Ваўкі!" Людзі прыбеглі, а ваўкоў няма. У другі раз і сапраўды напалі ваўкі на авечак. Хлопчык ізноў закрычаў: „Ваўкі! Ваўкі!", але людзі яму не паверылі, і ваўкі падушылі авечак. Выходзіць, што хлопчык ашукаў толькі сябе.

Лена. А наш Ромка ашуквае тату, маму.

Бабка. І яго за гэта ніколі не каралі?

Лена. А ён у нас хітры, выкручваецца.

Бабка. Э, не! На хітры вінт патрэбна добрая гайка!

Лена. Вы яго мала ведаеце, бабуля.

Бабка. Яно так. Я рэдка ў вас бываю. Асабліва апошні час. Занядужала нешта.

Лена. От, пабачыце, бабуля, ён і цяпер выкруціцца. Тата з мамай паехалі, а ён спадзяецца на вашу дабрату.

Бабка. Гэта яшчэ пабачым... Ты б, Ленка, па хлеб у краму збегала.

Лена. Калі ласка, бабуля, я з ахвотаю.

Бабка. Вось і добра, ты ў мяне малайчына, унучка. На вось грошы і бяжы.

*Лена выходзіць*

Бабка *(адна)*. Э, не, так не пойдзе. Хлусня — гэта тая ж хвароба, і таму яе трэба лячыць. *(Глядзіць у акно)*. Здаецца, ідуць. Дай выйду на хвілінку, пабачу, як ён будзе выкручвацца.

*Бабка выходзіць. Праз другія*

(Праця́г на стар. 10)

**Віктар Швед**

## ЗБЫЛАСЯ ДЗЕДКІ МАРА

**Унучка, слаўная Тамара,**
**Старэнькага пытае дзедку:**
**— Скажы, ці споўнілася мара**
**З гадоў, калі быў малалетка?**

**— Так, так, унучка дарагая,**
**Калі вось буйную чупрыну**
**Мне стрыглі, добра памятаю,**
**Лысым быць марыў безупынна.**

## АДУКАЦЫЯ ПЕРШАКЛАСНАЯ

**— Кажаш, працаю**
**Здабыў уласнаю**
**Адукацыю**
**Першакласную.**

**— Не хлушу, сынок,**
**Цяжкі быў мой час,**
**Вучыўся гадок,**
**Кончыў першы клас.**

**— Маеш рацыю,**
**Справа ясная,**
**Адукацыя**
**Першакласная.**

## НЕПАСЕДА

**— Непаседа ваш сынок, —**
**Скардзіцца настаўнік маці, —**
**На апошні ён званок**
**Ледзь патрапіць дачакацца.**

**— Як жа зразумець тады,**
**Што мой ветрагонны Вася**
**Змог цярпліва два гады**
**Прасядзець у адным класе?**

## ЛЫСЫ, ЯК КАЛЕНА

**— Матуля глянь, вось у паночка**
**На галаве ні валасочка.**
**— Гарланіць перастань, Сярожа,**
**Пачуць якраз ён гэта можа.**
**— А ці ж не ведае ён, мама,**
**Што развітаўся з валасамі?**

## БУРБАЛКІ

**Маці з хаты выйшла ў поле —**
**Дзеці тут пачулі волю.**
**Мыла распусцілі крышку,**
**Шмат саломак прынёс Мішка.**
**Разам з братам Мікалаем**
**Бурбалкі ён выдзімае.**
**Быццам шарыкі, паволі**
**Уздымаюцца да столі.**
**І на столі ды на сценах**
**Астаецца толькі пена.**
**— Пойдзем мо на панадворак?**
**Паляцяць там і да зорак.**
**Раптам уваходзіць маці,**
**Бачыць балаган у хаце.**
**— Што вы, дзеці, тут рабілі,**
**Калі столь і сцены ў мыле?**
**Дзеці маме адказалі:**
**— Бурбалкі мы выдзімалі.**

## ЯК ВОЎК, ГАЛОДНЫ

**З працы вярнуўшыся дамоў**
**Бацька крычыць:**
**— Дай есці, маці!**
**Галодны я, як воўк, гатоў**
**З'есці,**
**Што толькі ёсць у хаце.**
**Як толькі бацька ўжо замоўк**
**Азвалася тады Ганулля:**
**— Калі галодны ты, як воўк,**
**Дык не з'ядай хаця бабулі.**

 

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## ПРОДКІ

**Пачатак у папярэднім нумары**

Разахвочаны Віця расказаў сябру, што на поўдзень ад крывічоў па рацэ Прыпяці і асабліва па яе левых прытоках, верхняму цячэнню Нёмана і Нарвы, па сярэдняму Бугу жыло племя дрыгавічоў. На іх землі паўстала Тураўскае княства, яго сталіцай быў горад Тураў. Гэты старажытны горад на рухлівым гандлёвым шляху па рацэ Прыпяці і яе прытоках упамінаецца ўпершыню ў хроніках у 980 годзе. На ўсход ад дрыгавічоў, па рацэ Сажы, жыло племя радзімічаў. У іх таксама складвалася сваё княства, але гэтаму перашкодзілі суседнія стэпавыя плямёны. Яны на некаторы час запаланілі радзімічаў. На поўнач і ўсход ад беларускіх плямёнаў рассяліліся славене, велічы, северане, яны разам з паўночным і ўсходнім адгалінаваннямі крывічоў далі пачатак рускаму народу. На поўдзень ад беларускіх зямель пасяліліся валыняне, драўляне, угличы — продкі ўкраінскага народа.

Нейкі час хлопчыкі ішлі моўчкі. Аднак пачутае не давала спакою Славіку і ён запытаў:

— А што яшчэ пішуць у кнізе пра нашых продкаў?

— Многа чаго цікавага, — азваўся Віця. — Ці ведаеш, што...

І ён расказаў пра тое, што нашыя продкі былі язычнікамі. Яны верылі ў бога маланкі і грому Перуна — ён меў апекавацца воямі; у багоў сонца Хорса і Дажджбога, якія быццам бы спрыялі дастатку; Стрыбога, якога ўважалі валадаром вятроў; Купалу — ён меў спрыяць здароўю людзей і плёну збожжа. Верылі таксама іншым багам. На высокіх месцах і ў гарадах ставілі іх разьблёныя ў дрэве фігуры, прыносілі туды ахвяры, адпраўлялі малебены. Памёршых хавалі разам з рэчамі, якімі яны карысталіся за жыцця, зброяй, упрыгожаннямі. На магіле родзічы насыпалі высокі курган і спраўлялі памінкі па нябожчыку.

— Аднак досыць сумнае было жыццё нашых продкаў, — заўважыў Славік.

— Пэўна, — меркаваў Віця. — Асабліва простым людзям, што жылі з працы сваіх рук: абраблялі зямлю, гадавалі жывёл, даглядалі пчол у барах, займаліся рамяством, будавалі ўмацаванні. Найгорш было тым, што служылі багатым. Усё ж надараліся таксама і іх весялейшыя дзянькі. Во, пачытай!

Тут Віця пагартаў кнігу, знайшоў урывак і паказаў сябру. Славік прачытаў:

„У нашых продкаў было многа розных абрадаў. Імі ўшаноўваліся нараджэнне, шлюбы ці смерць. Святкавалі таксама змены пораў года: прыход вясны, настанне зімы, пачатак або заканчэнне важных работ, як заснаванне дома, першы выхад жывёлы на пашу, заканчэнне жніва і іншыя падзеі. Некаторыя з іх з часам сталі вясёлымі народнымі святамі, як масленіца, купалле, дажынкі. Купалле, напрыклад, святкавалі ў самы росквіт прыроды і выспявання збожжа. У купальскую ноч з 6 на 7 ліпеня на берагах рэк, азёр, на пагорках гарэлі вялікія вогнішчы, моладзь скакала цераз полымя, круціла кола, вадзіла карагоды, спявала, частавалася. Удзень людзі збіралі розныя лекавыя зёлкі, бо яны, быццам бы, тады набывалі надзвычайную аздараўляючую моц. Паданне казала, што ў купальскую ноч у лясной гушчэчы расцвітае кветка папараці. Хто яе сарве, той будзе самым шчаслівым чалавекам на свеце. Яму адкрыюцца ўсе скарбы зямлі, і ён будзе жыць вечна“.

У бібліятэцы Славік з Віцем памяняліся кнігамі. Хлопцаў аднолькава займала і мінулае і будучыня.

**Пытанні і заданні**

*1. Назавіце плямёны, якія з'яўляюцца продкамі беларускага народа.*

*2. Што вы ведаеце пра Полацкае і Тураўскае княствы?*

*3. Раскажыце пра вераванні нашых продкаў.*

(Працяг са стар. 9)

## ВЫКРУЦІЎСЯ

*дзверы заходзяць Раман і Паўлік.*

**Раман.** Вось мы і дома.

**Паўлік.** Дома то дома, але пападзе табе ад бабкі.

**Раман.** Не бойся, яна ў мяне добрая.

**Паўлік.** Яна то добрая, але і мы цацы. Глянь, наколькі спазніліся. *(Паказвае на гадзіннік).*

**Раман** *(чухаючы патыліцу).* Так, больш як на гадзіну.

**Паўлік.** Вось табе бабуля і падсыпе на арэхі за „агрэхі“.

**Раман.** Падсыпаць не падсыпе, але нядобра. Слова давалі.

**Паўлік.** Раз папаліся, трэба папрасіцца.

**Раман.** Яшчэ што выдумаў. Прасіцца — не ў маім характары.

**Паўлік.** Як хочаш. Але чакай. Няўжо нічога не можна прыдумаць?

**Паўлік.** Хоць сто гадоў думай, ад гэтага гадзіна не ператворыцца ў хвіліну.

**Раман.** Чакай, чакай... Як ты сказаў? „Гадзіна не ператворыцца ў хвіліну“. *(Б'е сябе па галаве і падскоквае).* Эўрыка! Эўрыка!

**Паўлік.** Таксама мне Н'ютан знайшоўся. Прыдумаў нешта?

**Раман.** На тое ў чалавека і галава на плячах, каб варушыць мазгамі.

**Паўлік.** Ну і што „наварушыў“?

**Раман.** „Наварушыў“. Глянь сюды. *(Паказвае на гадзіннік).* Што там чэкае?

**Паўлік.** Не сляпы, можа, бачу, гадзіннік.

**Раман.** А колькі на тым гадзінніку?

**Паўлік.** Ты што, не бачыш? Трэцяя гадзіна дня.

**Раман.** А мы павінны былі вярнуцца дамоў а другой. Значыць, спазніліся на гадзіну?

**Паўлік.** Так, на гадзіну і дзесяць хвілін.

**Раман.** Вось іменна! А я зраблю так, што мы прыйшлі ў пору, без спазнення. Дзесяць хвілін не важна. О, глянь, як гэта робіцца?. *(Становіцца на табурэтку і адганяе стрэлкі. Ставіць іх на 2 гадзіну.)* Спрытнасць рук і ніякага там круць-верць!

**Паўлік.** Як жа ніякага, калі ты не толькі стрэлкі пераставіў, але і сумленнем пакрывіў!

**Раман.** Падумаеш, сумленнем! Хіба я ўкраў што, пакрыўдзіў каго?

**Паўлік.** Чаму ж не ўкраў? Цэлую гадзіну ўкраў у свайго сумлення.

**Раман.** Ну і капун ты. Што такое сумленне? Цябе я не пакрыўдзіў, бабулю таксама. От пабачыш, прыйдзе, гляне, ды яшчэ і пахваліць: „Малайчына, унучак, на час вярнуўся“.

**Паўлік.** Дык ты вунь што задумаў! Не, я лепш пайду дамоў, каб не чырванець.

**Раман.** Дзівак ты, Паўлік. Тут ніякага ашуканства. Проста чалавек павінен быць кемлівым і заўсёды ўмець выкруціцца.

**Паўлік.** Кемлівы і манюка не адно і тое ж.

**Раман.** Ты глядзі на яго! Якая нянавісць! І ты ж быў са мной!

**Паўлік.** Быў. Але калі правініўся, то трэба сумленна і прызнацца.

**Раман.** То як прыйдзе бабуля, ты за мяне і прызнайся.

**Паўлік.** А навошта? Ты даваў слова, ты круціў стрэлкі, твая бабуля, ты і прызнавайся.

*Уваходзіць бабка.*

**Бабка.** А, нарэшце, прыйшлі! Ну як, прыгожа ў лесе?

**Раман.** Ой, бабулька, цудоўна! Дзяцел як з аўтамата сячэ: тр-рр-р! Зайца бачылі, вавёрку паганялі.

**Бабка.** Відаць, таму і спазніліся.

**Раман.** Дваццаць мінут. Дык мы ўжо добрых пяць мінут, як дома.

**Бабка** *(глянуўшы на гадзіннік, усміхнулася).* І сапраўды, дваццаць хвілін. Ну, дзякуй, унучак, што слова трымаеш. Сумленным чалавекам у жыцці будзеш. За гэта цябе будуць усе паважаць. Калі, скажуць, Раман, абяцае што, заўсёды зробіць. Ён не які там балабон, круцель. *(Раман вінавата пераглядаецца з Паўлікам.)* Добра, Раманка, добра. А цяпер сядайце ўдвух і перакусіце. Па лесе ходзячы, пэўна, і апетыт знайшлі. *(Хлопцы ўсміхаюцца.)* Сядайце, сядайце! *(Хлопцы садзяцца за стол.)* І дзе тая Ленка? Паслала яе ў краму па хлеб, а яна... Здаецца бяжыць.

**Працяг у наступным нумары**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 346513, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Узкая, 37, кв. 16. Кукановой Ирине. 7 клас.

* * *

СССР, 344074, г. Ростов-на-Дону, ул. Мурманская, д. 1, кв. 3. Крыловой Ларисе. 8 клас.

* * *

СССР. 346513, Ростовская обл., г. Шахты-13, ул. Узкая, 40. Мартынцевой Лене. 7 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл. г. Шахты-14, ул. Первомайская, 40-22. Бородкиной Лене. 16 год.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты-3, ул. Парковая, 56/57 Сазоновой Лене. 9 клас.

* * *

СССР, 344098, г. Ростов-на-Дону, ул. Королёва, 11/2, кв. 35. Булах Оксане. 8 клас.

* * *

СССР, 163059, г. Архангельск. ул. 40-летия Великой Победы, д. 7, кв. 26. Шамрикова Наташа. 5 клас.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл. г. Шахты, п/о Майский, ул. Карла Маркса, 65. Казанцевой Оксане. 11 год.

* * *

СССР, 163061, г. Архангельск пр. Новгородский, д. 164, кв. 75. Серёжа и Света Салмины. 6 клас.

## АДГАДАНКА





Знайдзі на гэтых малюнках сем адрозненн



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

 

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё.

### ДУДАРЫКІ
(З рэпертуару Т. Раеўскай)

**Ой ляцелі, ой ляцелі, ой ляцелі камары.**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**
**Ой сустрэлі, ой сустрэлі майго любага ўгары**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**

**Я чакала, я спявала, я спявала пра любоў.**
**Няўжо, любы, няўжо, любы, ты баішся камароў?**
**Нізка ў полі травы гнуцца**
**І да самай, да зары**
**Наваколі мяне ўюцца**
**Жаніхі, як камары.**
**Жаніхоў я адганяю,**
**З неба зорак не лаўлю,**
**Аднаго цябе кахаю,**
**Аднаго цябе люблю.**

**Адляцелі, адляцелі, адляцелі камары,**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**
**Назаўсёды, назаўсёды**
**Мы сустрэліся ў бары,**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**

### ЭПІТАФІІ

Чынушы

**Япчэ б мог жыць, але ўжо сціць — даў маху:**
**партфель баяўся уступіць — памёр ад страху.**

Лавеласу

**Начамі плачуць тут, каля пліты, твае любоўніцы,**
**ці чуеш?**
**Яны не ўпэўнены, ці ты там, у труне сваёй, начуеш.**

Паклёпніку

**Ты пры жыцці амаль не спаў: паклёпы языком**
**кляпаў, —**
**хай там хаця спакойна спіцца і пастарайся нам**
**не сніцца.**

**Васіль Жуковіч**

**З суседскага агародчыка.**




# НІЎКА



— Просяць паўтарыць...

### НЕ ПАДАЗРАЕ

— Мая жонка часта размаўляе сама з сабою.

— І мая таксама, але, нябога, нават таго і не падазрае...

— Як гэта?

— Яна думае, што я яе слухаю...

### У ТЭАТРЫ

Акцёр выхваляецца знаёмым:

— Калі ўвайду ў ролю, перада мною знікае сцэна, дзеючыя асобы, гледачы...

— Думаю, да гледачоў вы не маеце прэтэнзіі? — усміхнуўся адзін са слухачоў.

### РЭЦЭПТ

— Гэтыя грыбы на дзіва смачныя! Дзе вы дасталі рэцэпт, пані суседка?

— Нядаўна вычытала ў адным дэтэктыве пра атручванне...

### САКРАТАРКА

Дырэктар пытае сакратарку:

— Вы заняты ў нядзелю?

— Не, пане дырэктар, я свабодная, — адказвае яна, чырванеючы.

— Тады патурбуйцеся хоць раз не спазніцца ў панядзелак на службу.

### МАГАЗІН

— Я люблю хадзіць у гэты магазін. Тут ашукваюць ветліва, а ў іншым — груба.

Made in Zadrypanka.



**Умеў трымаць у руках усіх, апрача сябе.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Чаму ў зайца пярэднія ногі карацейшыя? — пытае адзін сябар другога.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Таму што Гасподзь стварыў яго ў канцы чацвертага квартала.

*

Пажылая дама купляе тэлевізар. У першы дзень яна паглядзела футбольны матч, на другі дзень паказвалі рэгбі.

Дама звярнулася ў магазін.

— Вы прадалі мне бракованы тэлевізар, — паскардзілася яна. — Учора мяч быў круглы, а сёння ён чамусьці авальны.

*

У ваенным самалёце, з борта якога праводзіліся трэніровачныя скачкі, раптам пачынаецца паніка.

— Што здарылася? — пытае інструктар.

— Радавы Бім Джампінг скочыў без парашута.

— Як?! Ізноў?!

### КРЫТЫКАН

Крытыкаваў не раз Панас
І гарсавет, і камунгас.
Што дзе ні ступіш — ямы,
гразь.
Ну хоць ты з хаты не вылазь
І вось давесці ўсё да ладу
Мясцовыя рашылі ўлады.
Яны заклікалі ў суботу
Пачаць на вуліцах работу.
Аднак, казалі, сярод мас
Адзін адсутнічаў — Панас.

**Браніслаў Мароз**

**З „Весніка Задрыпоніі“**

### ВЫНАХОДСТВЫ — У ЖЫЦЦЁ!

Фрэзероўшчык аб'яднання па выпуску цяжкіх швейных машын А. Папыркевіч, які ніколі не выконваў зменных заданняў, вынайшоў спецпрыладу, якая ўтрая скарачала час, які патрэбны для вырабу кожнай дэталі. Цяпер Папыркевіч не выконвае зменныя заданні ў тры разы хутчэй.

### ПЫТАННЕ РАБРОМ

Ці можа быць спакой у сям'і, у якой муж раўнівы, а жонка не дае яму ніякай падставы да рэўнасці.




Без слоў.





— А дзе Сідаравіч?
— Яму жонка пыласос купіла.

## Курёзы

### УДАКЛАДНІЛІ

Апісваючы дыпламатычнае снеданне ў французскім міністэрстве замежных спраў, найаўтарытэтнейшая газета Злучаных Штатаў Амерыкі „Нью-Йорк таймс“, не спадзеючыся, відавочна, на азнаёмленасць сваіх чытачоў, лічыла за неабходнае ўдакладніць: „Хоць прозвішча кухара было Маркс, ён не мае нічога супольнага з тым славутым рускім, у якога было такое самае прозвішча“.

Інфармацыя, вядома, цікавая. У прыватнасці — як сведчанне выключнай эрудыцыі яе аўтара, а таксама і тых, хто гэтае сачыненне ў друк благаславіў.

### З КНІГІ ГІНЕСА

Амерыканец Рып Хоуэл, які прасядзеў 17 з паловаю гадзін у сталітровым рэзервуары... таматнага соку, прызнаўся: „Напэўна, я з глузду з'еxаў“...

### ВЫЕХАЛІ ГАЛАСЫ

„У разгар летніх канікулаў наўрад ці можна сустрэць у горадзе шумныя дзіцячыя галасы. Усе яны цяпер выехалі ў загарадныя лагеры“.

(З допісаў у рэдакцыю)




**Каб не наступілі на хвост, ім трэба часцей віляць.**